МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№10 (150)
кастрычнік 2014

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## "ВЫБРАНАЕ" АЙЦА АЛЯКСАНДРА НАДСАНА

Збор твораў айца Аляксандра Надсана прэзентавалі ў Мінску. Імпрэза адбылася 23 кастрычніка ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Выданне, якое ўклала Ірына Багдановіч, выйшла ў серыі "Беларускі кнігазбор" і ўключыла ў сябе найважнейшыя творы айца Аляксандра, Ганаровага сябра Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў у замежжы і кіраўніка знакамітай беларускай бібліятэкі імя Францыска Скарыны, што ў Лондане.



*Укладальніца кнігі Ірына Багдановіч*

Спецыяльна да гэтай падзеі Бібліятэка імя Якуба Коласа арганізавала выставу "Слухай, неба, і пачуй, зямля", над якой працавала Вольга Губанава. "На выставе мы прадставілі матэрыялы, якія ў большасці выйшлі за межамі Беларусі, - зазначыла спадарыня Вольга. - У нашых фондах, на жаль, не так шмат асобнікаў гэтых твораў, і мы імкнуліся ўсё, што ў нас было, паказаць на гэтай выставе".

Дарэчы, у кастрычніку 2010 года ў той самай зале навуковай бібліятэкі адбылася прэзентацыя іншай кнігі Аляксандра Надсана – "Сонца тваё не закоціцца, і месяц твой не схаваецца". Імпрэза была прысвечана 80-годдзю айца Аляксандра і 50-годдзю яго святарства, і сам айцец Аляксандр браў у ёй удзел. І хоць на цяперашнюю імпрэзу ён завітаць з далёкага краю не мог, было поўнае адчуванне прысутнасці спадара Надсана: столькі цёплых і шчырых словаў на яго адрас гучала ў гэты вечар.

Архімандрыт, апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі айцец Сяргей Гаек, які выступаў першым, назваў выданне гэтай кнігі подзвігам жыцця і творчасці айца Аляксандра для ўсяго беларускага народу і ў Беларусі, і ў замежжы. Айцец Сяргей дабраславіў усіх, хто сабраўся на імпрэзу, і ўсе разам прачыталі малітву "Уладару нябесны" ў перакладзе айца Надсана.

Ганаровы старшыня міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс згадаў сустрэчу ў Лондане з айцом Надсанам, якога ён называе вельмі разумным, міралюбівым, абачлівым чалавекам і перакананым, шчырым беларусам.

Былы Міністр замежных спраў і дыпламат Пятро Краўчанка расказаў пра сваю першую сустрэчу з айцом Надсанам у 1993 годзе падчас першага і адзінага да таго часу візіта беларускага Мінстра замежных спраў у Вялікабрытанію: сярод асноўных мерапрыемстваў, акрамя сустрэчы з каралевай, перамоваў з бізнесоўцамі, было і наведанне бібліятэкі Францыска Скарыны. А пасля той сустрэчы Пятро Краўчанка яшчэ не раз бачыўся з айцом Аляксандрам. З асаблівай удзячнасцю ён згадаў, як у цяжкі для сябе час, калі ён у 1996 годзе, прыехаўшы ў Лондан за свае грошы, каб прадстаўляць апазіцыйны парламент на Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, не меў дзе жыць, айцец Аляксандр на тыдзень прытуліў яго ў сябе.

Галоўны рэдактар выдавецтва "Кнігазбор" Кастусь Цвірка, расказваючы пра выданне, адзначыў, што Ірына Багдановіч працавала над кнігай апантана і захоплена. Гэта ўжо трэцяя кніга, якую яна падрыхтавала для "Беларускага кнігазбору". Усе яны былі прысвечаныя беларускім святарам. Таксама спадар Кастусь прыадкрыў таямніцу: цяпер Ірына Эрнстаўна рыхтуе чацвёртую кнігу - збор твораў Льва Гарошкі.

Аўтар выдатнай прадмовы да кнігі, прафесар Лідзія Савік звярнула ўвагу прысутных, што менавіта айцец Аляксандр падштурхнуў яе і іншых даследчыкаў беларускай літаратуры заняцца беларускімі творцамі-эмігрантамі, падказаў кантакты многіх з іх. А потым, калі Лідзія Савік трапіла ў Скарынаўскую

➲

# "ВЫБРАНАЕ" АЙЦА АЛЯКСАНДРА НАДСАНА



*Аўтар прадмовы Лідзія Савік*

бібліятэку, яна з вялікай цікавасцю ўзялася пераглядаць эмігранцкую літаратуру. Многія пісьменнікі замежжа свае архівы перадавалі менавіта ў Скарынаўскую бібліятэку айцу Аляксандру Надсану, бо былі ўпэўненыя, што там усё захаваецца. А адзін пакой бібліятэкі аж да столі быў загружаны неразабранымі часопісамі. Лідзія Сымонаўна заўважыла, як яшчэ тады айцец Аляксандр гаварыў, што яму патрэбны бібліятэкар.

А напрыканцы прамовы спадарыня Савік заклікала сваю калегу Ірыну Багдановіч падумаць над тым, каб напісаць кнігу пра айца Аляксандра.

Спадарыня Ірына расказала пра шлях, які прывёў яе да гэтай кнігі. Пачалося ўсё з працы над вялікім праектам, задуманым Адамам Мальдзісам: над біябібліяграфічным слоўнікам беларускіх пісьменнікаў. У кола персаналій, пра якіх выпала напісаць Ірыне Багдановіч, уваходзілі беларускія святары. "Калі я збірала матэрыялы пра Казіміра Сваяка, ён ужо стаў маім духоўным бацькам, блізкім сябрам, хоць і адышоў даўно з жыцця", - прызналася яна. Ірына Эрнстаўна назбірала шмат матэрыялаў пра гэтага беларускага святара яшчэ ў пачатку 1990-х, але тады не была духоўна гатовая скласці яго кнігу. Прайшло амаль 20 гадоў, пакуль тая ўбачыла свет у серыі "Беларускі кнігазбор".

Праца над наступнай кнігай - выбранымі творамі Вінцука Адважнага (пад такім псеўданімам пісаў святар Язэп Германовіч) - заняла ўжо значна менш часу. Падчас працы над кнігай Германовіча спадарыня Ірына часта сустракала артыкулы айца Аляксандра на розныя тэмы., і да яе прыйшла думка сабраць усё гэта разам. "Калі я пазнаёмілася з айцом Аляксандрам у пачатку 1990-х, ён быў для мяне перш за ўсё святаром, - сказала Ірына Эрнстаўна. - Гэта быў мой першы святар-спаведнік. А пасля ўжо я пачала разумець, што гэта духоўны пісьменнік Беларусі, гэта гуманіст, асветнік, які дае нам пазнаць праўду не толькі праз Божае слова, праз літургію, а і праз навуковую працу, праз асветніцкую дзейнасць".

Напрыканцы імпрэзы слова ўзяла сябра Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і старшыня новастворанага Цэнтра камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа Наталля Гардзіенка. Яна падзякавала арганізатарам за запрашэнне, а таксама "Беларускаму кнігазбору" за тое, што ў гэтай серыі, хоць не вельмі часта, але з'яўляюцца кнігі аўтарства беларускіх замежных дзеячаў і літаратараў.

"Добра што гэты працэс пакрысе ідзе, што ёсць ужо том і Наталлі Арсенневай, і Вінцука Адважнага, і Рыгора Крушыны, і Масея Сяднёва, - сказала спадарыня Наталля, - і сённяшні том айца Аляксандра Надсана - гэта таксама вельмі важная з'ява. З усіх пералічаных аўтараў беларускага замежжа гэта адзіны, каго я ведаю асабіста. Гэта сапраўды знакавы чалавек для мяне. Калі ў 2005 годзе я ўпершыню прыехала ў Лондан, была ўражаная той атмасферай, якую ён ствараў вакол сябе. Не заўважалася ні розніца ва ўзросце, ні розніца ў досведзе - з ім заўсёды было проста, цікава. Для мяне як для даследчыка эміграцыі ён стаў найважнейшай крыніцай інфармацыі пра жыццё беларусаў замежжа… Я хачу падзякаваць спадарыні Ірыне і спадарыні Лідзіі за тое, што яны ўклалі гэтую кнігу. Безумоўна, туды ўвайшло не ўсё створанае айцом Аляксандрам, і ў той жа Скарынаўскай бібліятэцы яшчэ ёсць цэлыя скрыні - я іх бачыла - з ліставаннем, з тэкстамі айца Аляксандра. Гэта вялікая праца на будучыню. Айцу Аляксандру трэба падзякаваць за тое, што гэта ўсё захавалася".

Пасля выступаў удзельнікаў імпрэзы мікрафон быў перададзены ахвочым з залы. Спадар Алег Шагулін згадаў, як айцец Надсан хрысціў яго ў Мінску ў 1998 годзе, і сказаў, што такіх, як ён, Бог нячаста пасылае народу. А Марыя Міцкевіч, унучка Якуба Коласа, таксама хрышчоная айцом Аляксандрам, звярнула ўвагу на яго дабрачынную працу ў Камітэце ахвярам Чарнобыля. Ён ездзіў з гуманітарнай дапамогай па Беларусі, а дзяцей, якія прыязджалі на аздараўленне ў Лондан, запрашаў у бібліятэку. А яшчэ спадарыня Марыя расказала, што матэрыялы, прысвечаныя Якубу Коласу, якія яна бачыла ў Скарынаўскай бібліятэцы, дазволілі ёй адкрыць постаць свайго дзеда з іншага боку - такім, якім яго бачыла беларускія эмігранты, людзі, якія апынуліся далёка за межамі нашай краіны, але ведалі, любілі Коласа і пісалі пра яго.



*Сябра Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Наталля Гардзіенка*

Урачысты вечар, які цягнуўся амаль дзве з паловай гадзіны, атрымаўся сяброўскім і цёплым. Атмасферу дапамаглі стварыць таксама і музыкі - Тацццяна Матафонава ды хрысціянскі гурт "Laudans". Падчас імпрэзы быў паказаны кароткі фільм "Іду да неба…" пра айца Надсана, а аспірантка Аксана Юшкавіч прачытала верш-прысвячэнне Рыгора Барадуліна айцу Надсану "Шчырэць". Падзея, што адбылася ў бібліятэцы, атрымалася такая душэўная, што ніхто не спяшаўся разыходзіцца: людзі вывучалі выставу, гутарылі і згадвалі айца Аляксандра, цудоўную і светлую асобу.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*
*Цалкам матэрыял чытайце*
*на сайце zbsb.org*

## IV МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ Ў КОЎНА

IV Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі адбыўся 3-5 кастрычніка ў Коўна (Літва). У Кангрэсе ўзялі ўдзел каля 450 чалавек з 20 краінаў. Тут працавалі пятнаццаць секцый. Адна з сёлетніх секцый называлася "Беларускае замежжа і памежжа ў гісторыі і сучаснасці". Арганізатарам гэтай секцыі выступіла кандыдат гістарычных навук, сябра Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Наталля Гардзіенка.

Секцыя стала вынікам злучэння трох тэматычных напрамкаў: "Беларускае памежжа", "Беларускае замежжа" і "Беларусы ў Польшчы". З дакладамі выступілі Алег Латышонак, Дарота Міхалюк, Лена Глагоўская (Польшча); Томаш Блашчак (Літва); Ганна Запартыка, Мікола Трус, Ірына Багдановіч, Ціхан Чарнякевіч, Ганна Кісліцына, Сяргей Шабельцаў (Беларусь), Мікола Пачкаеў (Вялікабрытанія), Ілля Дзяменцьеў (Расія), Вольга Ямкова, Алена Барабаш (Украіна), Уладзімір Калупаеў (Італія) і іншыя даследчыкі.

Усяго на секцыі былі запланаваныя выступы 31 навукоўца. Праўда, не ўсе даехалі да Кангрэсу, але пераважная большасць заяўленых удзельнікаў была, і праца, на думку Наталлі Гардзіенкі, атрымалася вельмі цікавай.

У другі дзень Кангрэсу былі абвешчаныя вынікі і ўручана Прэмія Кангрэсу ў трох намінацыях: гуманітарныя навукі, сацыяльна-палітычныя навукі і гісторыя.



*Выставу адкрывалі Томаш Блашчак і Людвіка Кардзіс*

Адным з цікавых мерапрыемстваў сёлетняга Кангрэсу, якое варта адзначыць асобна, было адкрыццё выставы, прысвечанай Віленскай беларускай гімназіі. Рэдкія фотаздымкі, дакументы, сшыткі, падручнікі, вышыванкі і іншае, звязанае з гэтай навучальнай установай і яе вучнямі, маглі ўбачыць удзельнікі Кангрэсу.

*Паводле hardzin.livejournal.com*

## ПАЭМА "РАГНЕДА" НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ



Ідэя напісаць гэтую паэму ў Анастасіі Сазанковай паўстала яшчэ ў 2002 годзе. Некалькі ўрыўкаў былі надрукаваныя спачатку ў рыжскай беларускай газеце "Прамень", пазней – у зборніку вершаў беларускіх паэтаў Латвіі, выдадзеным у Рызе ў 2006 годзе пры падтрымцы Саюза беларусаў Латвіі. Сёлета паэма выйшла асобнай кнігай.

Анастасія Сазанкова размяняла ўжо дзявяты дзясятак гадоў, аднак яна актыўнейшая ад многіх маладых. Яна працягвае натхнёна пісаць карціны, выдаваць свае кнігі. Летась выйшаў зборнік вершаў "Бярозка на вятры", сёлета – "Рагнеда", рыхтуецца да выдання кніга пра гаючыя травы "Лекавыя расліны Латвіі". Творчыя натуры таленавітыя ва ўсім.

Анастасія Аляксандраўна Сазанкова паводле першай адукацыі ўрачтэрапеўт, паводле другой – мастак, а яшчэ яна піша вершы і актыўна прапагандуе гаючыя травы. Калісьці спявала ў ансамблі "Купалінка" беларускага таварыства "Уздым", а сёння актыўна выступае ў самадзейным тэатры сваёй цяперашняй Асацыяцыі мастакоў.

Хацелася б, каб яе новая кніга была запатрабаваная ў нашай моладзі, каб гістарычная памяць дапамагала ім у пазнанні сваіх каранёў.

*Паводле Тацяны Бучэль*

## У ІЗЯСЛАВЕ ЗАВЯРШЫЎСЯ КОНКУРС ЧЫТАЛЬНІКАЎ

Год беларускай культуры ў Ізяславе, які першапачаткова планаваўся ва ўстановах культуры Украіны як Год беларускай культуры ва Украіне, набліжаецца да свайго завяршэння. 25 кастрычніка адбыўся другі (заключны) этап конкурсу чытальнікаў беларускага прыгожага пісьменства, які цалкам складаўся з беларускай байкі. Заўважу, што першы тур конкурсу быў пабудаваны на вершах беларускіх паэтаў, якія яны прысвяцілі Украіне і яе народу, таму дэвізам конкурсу быў цудоўны радок Янкі Купалы "Украіна, вецце любы, сонцам гадаваны...", і перамогу ў ім здабыла тады яшчэ вучаніца 11 "Б" класа гімназіі №5 Анастасія Даніленка, якая цяпер навучаецца ў Польшчы. Другі тур чытальнікаў пачаўся з майго выступу. Прысутным – канкурсантам і слухачам, якія цалкам запоўнілі чытацкую залу раённай бібліятэкі, – я апавёў пра беларускую байку, якая з'явілася ў беларускай літаратуры ў канцы XIX стагоддзя.

Беларускай байцы пашанцавала ў нейкім сэнсе, бо ёй прысвяцілі працу і таленавітыя Якуб Колас і Янка Купала. Менавіта з чытання іх баек і пачалося "змаганне" чытальнікаў. Наш гурт беларускай культуры носіць імя "Зорка Венера", таму аўтара "Зоркі..." Максіма Багдановіча таксама не абышлі ўвагай. А потым адна за другой чыталіся байкі карыфея гэтага жанру ў беларускай літаратуры Кандрата Крапівы ды іншых аўтараў – Міхася Скрыпкі, Уладзіміра Корбана, Эдуарда Валасевіча, Хведара Жычкі, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Хведара Чэрні... Заканчваць "парадале" чытальнікаў баек давялося мне, кіраўніку журы конкурсу. Пераможцам конкурсу аднагалосна прызнаная Агнешка Літвінчук, якой быў уручаны галоўны прыз конкурсу – па-мастацку афармлены альбом Анатоля Клешчука "Беларусь, зямля песняроў", прысвечаны Янку Купалу і Якубу Коласу. Карыстаючыся момантам, хачу падзякаваць дырэктару Рэспубліканскага Цэнтра нацыянальных культур Міністэрства культуры Беларусі спадару Міхасю Рыбакову, які перадаў мне падчас наведвання цэнтру гэты альбом. Спадзяюся, што ва Украіне пакрысе ўсталюецца мір і адбудзецца Год беларускай культуры ва ўсёй Украіне, як і планавалася да падзей Майдану 2013 года... Мы ж у сябе беларускі Год завершым у снежні каля навагодняй ялінкі!

*Паводле Петруся Капчыка*

## ЗВАРОТ У СУВЯЗІ СА ЗВАЛЬНЕННЕМ ЛЕНЫ ГЛАГОЎСКАЙ

У сувязі са звальненнем з Беластоцкага дзяржаўнага ўніверсітэта доктара Лены Глагоўскай на імя рэктара ўніверсітэта прафесара Леанарда Этэля быў накіраваны зварот з заклікам перагледзець прынятае рашэнне. У прыватнасці, у звароце гаворыцца: “Прафесар Лена Глагоўская з’яўляецца дасведчаным і актыўным супрацоўнікам Вашай навучальнай установы, адным з тых, хто фарміруе твар універсітэта, яго імідж. Можна толькі ганарыцца такімі супрацоўнікамі. Доктар Лена Глагоўская аддала болей за 16 год працы на кафедры беларускай культуры, напісала сотні навуковых і навукова-папулярных артыкулаў і даследаванняў пра выбітных дзеячаў беларускай і польскай культур, адрэдагавала дзясяткі кніжак і, што асабліва хочацца падкрэсліць, працягвае працаваць з той жа актыўнасцю. Яе досвед і веды, несумненна, з’яўляюцца каштоўным рэсурсам для ўніверсітэта. (…) Беласток заўсёды быў цэнтрам, важным для беларускай нацыянальнай меншасці Падляшша. З усіх гарадоў Польшчы менавіта ў Беластоку пражывае найбольшая колькасць беларусаў. Увесь час Польшча аказвала значную падтрымку беларусам, дзякуючы чаму яны захавалі сваю ідэнтычнасць, што крайне важна для беларускай нацыі агулам. І гэта цалкам палягае ў рэчышчы еўрапейскай палітыкі павагі да правоў нацыянальных меншасцяў.

У такіх варунках звальненне аднаго з найлепшых спецыялістаў кафедры беларускай культуры бачыцца адхіленнем ад такой шматгадовай паслядоўнай палітыкі Польшчы ў дачыненні да сваіх грамадзянаў-беларусаў і можа нанесці непапраўную шкоду беларуска-польскаму міжкультурнаму дыялогу.”

***Заклікаем далучыцца да акцыі падтрымкі Лены Глагоўскай і накіроўваць свае звароты да спадара рэктара на адрас etel@uwb.edu.pl або ul. M. Skłodowskiej-Curie 14, 15-097 Białystok, Poland.***

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў лістападзе: **Антонія Бокуна, Генадзя Вінярскага, Анатоля Вярцінскага, Юрася Меляшкевіча, Мілану Міхалевіч** (Беларусь). Зычым шаноўным імяніннікам духоўнага багацця, натхнення, выдатнага здароўя і бясконцай радасці!

26 лістапада 50-годдзе адзначае архіепіскап **Святаслаў Логін** (Канада). Ад усёй душы зычым яму моцы духу, светлых думак, добрага здароўя і спагады блізкіх!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

## ПРЭМІЯ ІМЯ АЛЯКСАНДРА І МАРЫІ СТАГАНОВІЧАЎ ЗА КНІГУ Ў ГАЛІНЕ НЕПРЫДУМАНАЙ ЛІТАРАТУРЫ (NON-FICTION)

У сучаснай Беларусі існуе патрэба падтрымкі і развіцця непрыдуманай літаратуры, яе аўтараў і выдавецкага працэсу. Для спрыяння вырашэнню гэтых задач засноўваецца Прэмія імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў.

У 2011 г. у выдавецтве “Лімарыус” была запачаткаваная кніжная серыя “Беларуская мемуарная бібліятэка”, галоўнай ідэяй якой – публікацыя успамінаў беларусаў і пра Беларусь, што з’яўляюцца адным з жанраў не-прыдуманай літаратуры. Першай кнігай, якая пабачыла свет у гэтай серыі, сталі “Успаміны пасла” эмігранта Аляксандра Стагановіча (1890—1988). У хуткім часе была апублікаваная і кніга ягонай жонкі Марыі Стагановіч (1898—1995) “Мае ўспаміны”. У 2015 г. спаўняецца 125 гадоў ад нараджэння Аляксандра Стагановіча і 20 гадоў ад смерці Марыі. Іх дачка, вядомая мастачка, што жыве ў Нью-Ёрку, Тамара Стагановіч-Кольба, жадаючы ўшанаваць памяць пра бацькоў і падтрымаць непрыдуманую літаратуру, вырашыла заснаваць прэмію іхняга імя за кнігу ў гэтай галіне.

Прэмія мае быць уручана ў 2015 г. за кнігі, надрукаваныя ў Беларусі на беларускай мове ў перыяд 2011—2014 гг.

Партнёрамі ў арганізацыі конкурсу і ўручэнні прэміі выступаюць: Беларускі інстытут навукі і мастацтва, ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”, МГА “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”, выдавецтва “Лімарыус”.

На прэмію могуць быць вылучаны кнігі, напісаныя ў галіне непрыдуманай літаратуры наступных жанраў:

– мемуары, успаміны, дзённікі, эпісталярная спадчына (не толькі ўласныя, але і публікацыі чужых);
– біяграфіі;
– травелогі (падарожныя нататкі);
– дакументальная проза.

Трох пераможцаў конкурсу вызначыць кампетэнтнае журы ў складзе:

– старшыня секцыі непрыдуманай літаратуры ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў, сябра Управы і Рады ЗБС “Бацькаўшчына”, галоўны рэдактар альманаха “Запісы БІНіМ”, кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка;
– сябра Управы і Рады ЗБС “Бацькаўшчына”, загадчык аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Валер Герасімаў;
– сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, кандыдат філалагічных навук Віктар Жыбуль;
– дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка;
– літаратуразнаўца, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, старшы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАНБ, кандыдат філалагічных навук Ганна Кісліцына;
– літаратуразнаўца, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, супрацоўнік рэдакцыі часопіса “Маладосць” Ціхан Чарнякевіч;
– дырэктар выдавецтва “Лімарыус” Марына Шыбко.

Агульны памер прэміі будзе падзелены паміж трыма пераможцамі, кожны з якіх атрымае таксама дыплом і памятны медаль.

Правам намінавання на прэмію імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў валодаюць як аўтары ці выдаўцы, так і члены журы конкурсу.

Пры вылучэнні кнігі на прэмію трэба **да 19 студзеня 2015 г.** перадаць у аргкамітэт папяровы і/ці электронны варыянт тэксту. Папяровыя выданні трэба прадстаўляць у Саюз беларускіх пісьменнікаў па адрасе: 220012, Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31–906. Электронныя версіі выданняў можна дасылаць на адрас: sbp@lit-bel.org. Пры перадачы ці дасылцы кніг на прэмію трэба рабіць адмысловую пазнаку “Прэмія А. і М. Стагановічаў”.

Тэлефон для даведак: +375-17-200-80-91.

Імёны пераможцаў будуць абвешчаны ў красавіку 2015 г.

*Аргкамітэт*

# НЕВЯДОМЫ АЎТОГРАФ КОЛАСА І АПАВЯДАННЕ МАЎРА ПРА БЕЛАРУСЬ

У Акадэмічнай бібліятэцы Латвійскага ўніверсітэта ў Рызе адкрылася выстава "Янка Маўр і Якуб Колас: Разам па жыцці". Падрыхтавала яе ўнучка пісьменнікаў Марыя Міцкевіч. Разам са сваім бацькам Міхасём Міцкевічам – малодшым сынам Якуба Коласа і зяцем Янкі Маўра – яна адкрыла выставу 14 кастрычніка. Экспазіцыя атрымалася ўнікальнай: напрыклад, у яе ўвайшла кніга са знойдзеным толькі нядаўна аўтографам Якуба Коласа, накіды маловядомага апавядання Янкі Маўра, прысвечанага Беларусі, а таксама маркі з самых розных краінаў свету – сведчанне актыўнага ліставання Маўра з калегамі-эсперантыстамі. А кнігі, перададзеныя спадарыняй Марыяй ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", знайшлі пачэснае месца на стэндах Беларускага інфармацыйнага цэнтра, што месціцца ў бібліятэцы. Па вяртанні Марыя Міцкевіч распавяла пра працу над выставай, яе адкрыццё і цікавыя неспадзяванкі.

Гэтую выставу хацелася зрабіць даўно, а таксама хацелася пазнаёміцца бліжэй з беларусамі Латвіі, таму што мой дзед, Янка Маўр, нарадзіўся ў Латвіі, у горадзе Лібава, які цяпер называецца Ліепая.

Першы раз у Латвіі я была сёлета ў траўні, прывезла выставу ў беларускую школу ў Рызе. Усё прайшло вельмі добра, і тады дамовіліся зрабіць выставу, прысвечаную 131-й гадавіне з дня нараджэння пісьменніка, у Акадэмічнай бібліятэцы Латвійскага ўніверсітэта, запрасіць прадстаўнікоў беларускіх супольнасцей Латвіі, студэнтаў універсітэта. Тут дапамагала і пасольства Беларусі ў Латвіі, і Беларускі інфармацыйны цэнтр – новая арганізацыя, якая месціцца ў гэтай бібліятэцы, і літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Адкрыццё выставы было прызначана на 14 кастрычніка.

У Рыгу на адкрыццё я паехала разам са сваім бацькам, Міхасём Канстанцінавічам. Безумоўна, ён быў там самай галоўнай асобай, таму што столькі ведае і пра Якуба Коласа, і пра Янку Маўра. Уступнае слова на адкрыцці выставы ў Акадэмічнай бібліятэцы Латвійскага ўніверсітэту казала дырэктар бібліятэкі спадарыня Вента Коцэрэ. Прысутнічалі супрацоўнікі амбасады, была і сама пасол Беларусі – Марына Далгаполава, прыйшлі беларусы Латвіі. Для гэтай імпрэзы мы выставілі на стэнды кнігі, якія перадало Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" для інфармацыйнага цэнтра і бібліятэкі. Міхась Канстанцінавіч дзяліўся ўспамінамі, чытаў вершы з "Новай зямлі", "Сымона-музыкі", гумарыстычныя вершы Якуба Коласа. Успрымалі іх вельмі добра. Я коратка расказала пра выставу. Потым слова ўзялі прадстаўнік Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" Вячка Целеш і дырэктар Рыжскай беларускай школы Ганна Іванэ, якія падзякавалі нам і ўручылі падарункі і кветкі.

Сама выстава атрымалася вельмі цікавая. Больш яна прысвечана Янку Маўру – усё ж нарадзіўся ў Латвіі ён, але паколькі яны былі з Якубам Коласам сваты, то ўключаны і матэрыялы, прысвечаныя Коласу, узаемасувязям двух пісьменнікаў.

Асаблівую цікавасць выставе надаюць рукапісы лістоў Янкі Маўра да Якуба Коласа ваеннага часу, кнігі Якуба Коласа з дароўнымі надпісамі Янку Маўру. Абодва пісьменнікі спазналі цяжкія гады эвакуацыі, Якуб Колас – у Ташкенце, Янка Маўр – у Алма-Аце. У лістах пісьменнікі дзяліліся сваімі перажываннямі, творчымі планамі, марамі, радасцямі і горам, падтрымлівалі адзін аднаго ў цяжкія моманты прабывання на чужыне, іх перапіска – пацвярджэнне сапраўднага сяброўства, якое яны пранеслі праз усё жыццё.


ВЕРШЫ
АПАВЯДАННІ ВЕРШАМ
(1904—1917)

Глыбокапаважанаму,
дарагому Андрэю Марты-
навічу Упіту, народнаму
пісьменніку Латвійскай ССР
у дзень слаўнага сямідзесяці
пяцігоддзя
Якуб Колас

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя мастацкай літаратуры
Мінск 1952

5 XII 1952 г.

Цікавы стэнд "Маўр і эсперанта": прадстаўленыя маркі з лістоў, што яму пісалі эсперантысты, выданні на мове эсперанта, у тым ліку кніга латышскага пісьменніка А.Упіта на мове эсперанта, падараваная Я.Маўру, і нават вершы Якуба Коласа і Янкі Купалы ў перакладзе на мову эсперанта. Усе цікавіліся, чаму Маўр пісаў пра Вогненную Зямлю, паўстанне на Яве, дзе ніколі не быў. А ён атрымліваў усе гэтыя звесткі ад сваіх сяброў-эсперантыстаў і таму апісваў чужыя краіны з такой дакладнасцю, што нават людзі, якія там жылі, можа, не ўсё тое ведалі, што ведаў Янка Маўр.

Яшчэ адзін стэнд прысвечаны латвійскім сувязям пісьменнікаў. Якуб Колас сустракаўся ў 1926 годзе з Янам Райнісам і падараваў яму дзве кнігі з дароўнымі надпісамі – яны і цяпер захоўваюцца ў Рызе ў музеі Райніса. А ў мой мінулы візіт мы разам з Вячкам Целешам наведалі музей Андрэя Упіта і знайшлі там сямітомнік Якуба Коласа, дзе на першым томе ўбачылі дароўны надпіс Упіту, які быў невядомы і не ўвайшоў у збор твораў Коласа, у адрозненне ад вядомых дароўных надпісаў Райнісу. Гэтую знаходку мы таксама ўключылі ў экспазіцыю.

Таксама цікава, што Колас перапісваўся з адным з вядомых беларускіх дзеячаў Латвіі Сяргеем Пятровічам Сахаравым, стваральнікам беларускай арганізацыі "Бацькаўшчына" ў Латвіі. У фондзе музея Якуба Коласа захоўваюцца лісты Сахарава да Якуба Коласа, а ў бібліятэцы Акадэміі навук Беларусі ёсць ліст Коласа да Сахарава, копію якога я таксама зрабіла для выставы. Пасля выставы да мяне падышла жанчына і сказала: "А я ўнучка Сахарава!" Так дзве ўнучкі спаткаліся – такая вось незвычайная сустрэча адбылася!

Мяне заўсёды турбавала пытанне: чаму Маўр піша пра розныя далёкія краіны і вельмі мала пра гісторыю Беларусі і суседніх краін? Аказваецца – пісаў. Ёсць маловядомы твор "Першая партыя псоў", прысвечаны гісторыі Тэўтонскага і Лівонскага рыцарскіх ордэнаў. Ён быў знойдзены ў архіве пісьменніка і надрукаваны ў часопісе "Маладосць". Мне здаецца, што гэта пачатак гісторыка-прыгодніцкай аповесці, якую ён не скончыў: можа, разумеў, што ў тыя гады пра беларускую гісторыю было цяжка пісаць. Але там ёсць і пра Конрада Мазавецкага, і пра Давіда Гарадзенскага – то бок, усе тыя звесткі, якія, як мне здаецца, у той час былі не надта даступныя, яны толькі цяпер прыйшлі да нас. Дзе ён браў гэта, якімі крыніцамі карыстаўся?.. Але ўсё ж такі ён гэта ведаў, і нават у адной нататцы ў яго згадваецца Грунвальдская бітва – да нас яна прыйшла намнога пазней, бо калі мы вучыліся, мы гэтага нічога не ведалі. А Янка Маўр ведаў. У яго паперах захаваўся план апавядання, дзе былі тэмы беларусаў і немцаў, беларусаў і рускіх, Грунвальдскай бітвы, крыжацкіх паходаў… Вельмі цікава, што ён ведаў гэта.

Я вельмі радая, што ўрэшце адкрылася такая выстава. Матэрыялы для яе я шукала і ў музейных, і ў іншых фондах, штосьці было ў мяне з ранейшых выставаў, штосьці ўзятае з сямейных архіваў, напрыклад, фотаздымкі або асабістыя рэчы Янкі Маўра. Выстава атрымалася цікавай і будзе працаваць яшчэ нейкі час. Я спадзяюся, што ў будучыні ў нас будзе магчымасць паказаць яе і ў Ліепаі, дзе нарадзіўся Янка Маўр.

*Гутарыла з Марыяй Міцкевіч*
*Алеся Башарымава, прэс-сакратар*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*Цалкам гутарку чытайце*
*на сайце zbsb.org*

# АБ'ЯДНАННЕ БЕЛАРУСАЎ ВУГОРШЧЫНЫ ІМЯ ІШТВАНА БАТОРЫЯ: УСЁ ЯШЧЭ ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЕЦЦА...

Згодна з дадзенымі Амбасады Беларусі ў Вугоршчыне, беларуская дыяспара тут нешматлікая: на пастаянным консульскім уліку знаходзіцца трохі больш за 150 чалавек па ўсёй краіне. Для паўнаты да гэтай лічбы трэба дадаць абмежаваную колькасць працоўных на пастаянным і часовым знаходжанні, а таксама студэнтаў. Спецыяльныя стыпендыяльныя праграмы прапанаваныя Міжнародным Вышаградскім фондам, Інстытутам "Адкрытае грамадства" і Фондам Сораса, Цэнтральным еўрапейскім універсітэтам (ЦЕУ). Да таго ж, 8 верасня Сакратар Міністэрства замежных справаў і знешнеэканамічных сувязяў Вугоршчыны Сіярто Пітэр і Пасол Беларусі ў Вугоршчыне Аляксандр Хайноўскі падпісалі дамову аб развіцці стасункаў паміж краінамі ў сферы вышэйшай адукацыі. Згодна з ёй, штогод 50 беларускіх і 10 вугорскіх студэнтаў будуць атрымліваць дзяржаўныя стыпендыі.

У першыя гады свайго існавання Аб'яднанне трымалася на асабістай актыўнасці Змітра Карацеева і Віктара Кірэева. Ім належыць аўтарства самой ідэі, а таксама першапачатковай назвы. Так, таварыства было трапна названа ў гонар Іштвана Баторыя, выбітнага дзеяча беларускай гісторыі венгерскага паходжан-ня, са школьных падручнікаў гісторыі нам больш вядомага як Стэфан Баторы. Асабістымі высілкамі была распрацаваная арыгінальная версія сайта, які падтрымліваўся на працягу 2008–2010 гг. З прычыны ад'езду з Вугоршчыны актыву ў 2011–2013 гг. беларуская суполка існавала хутчэй у нефармальным модусе.

У 2013 годзе пачаўся новы этап у развіцці таварыства. Гэта ў першую чаргу звязана з рэлізам адноўленай версіі сайта: www.belcommunity.org. Рэсурс змяніў свой фармат, інфармацыя публікуецца на трох мовах – беларускай, венгерскай і англійскай, плануецца дадаць і рускамоўную версію. Цэнтральныя тэматыкі публікацый – навіны і падзеі з жыцця беларусаў за мяжой, беларуска-вугорскія дыпламатычныя, культурныя і спартыўныя зносіны і мерапрыемствы. Асаблівы гонар аб'яднання – калекцыя літаратуры на беларускай, рускай і англійскай мовах, шматлікія дзвюхмоўныя выданні. Адной з яскравых падзей апошняй дэкады жніўня з'явілася распрацоўка спецыяльнай эмблемы аб'яднання.

Восенню плануецца афіцыйная рэгістрацыя таварыства. Гэта адкрые дадатковыя магчымасці аб'яднання для ўдзелу ў разнастайных міжнародных праектах, у пошуку дадатковага фінансавання мерапрыемстваў.

План працы на восеньскі семестр – сустрэча, усталяванне кантактаў і падтрымка студэнтаў ЦЕУ і іншых універсітэтаў. Беларуская суполка ўпершыню адкрывае набор на курсы беларускай мовы сярод іншаземцаў. Курсы прапануюцца на бясплатнай аснове праз англійскую мову, дадатковую інфармацыю па наборах можна знайсці на сайце.

Адна з нашых мэтаў – наладзіць больш шчыльныя адносіны з навукоўцамі і выкладчыкамі кафедры славянскіх моваў навуковага ўніверсітэта імя Э. Лоранда. У доўгатэрміновай перспектыве беларуская суполка мае на прыкмеце арганізацыю лабараторыі беларуска-венгерскіх і венгерска-беларускіх перакладаў. Першыя крокі ўжо зробленыя – пераклады беларускіх народных абрадавых песень для зацікаўленых беларускім фальклорам студэнтаў этнаграфіі, з якімі таксама намячаецца шэраг сустрэч і інтэрв'ю восенню. Гэта толькі невялікая частка мэтаў і задач таварыства на найбліжэйшы час.

Арганізацыйны камітэт аб'яднання выказвае падзяку сябрам таварыства – Карыне Лобан, Ганне Асіповіч, Іллю Рэзніку за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага артыкула, а таксама Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" за плённую працу ва ўсталяванні і замацаванні кантактаў з арганізацыямі беларусаў замежжа па ўсім свеце.

*Паводле Веранікі Бурсевіч*
*спецыяльна для "Беларусы ў свеце".*
*Цалкам матэрыял чытайце*
*на сайце zbsb.org*

# МАГІЛЫ ВЫБІТНЫХ БЕЛАРУСАЎ У ПРАЗЕ — ПАД АПЕКАЙ "СКАРЫНЫ"

Магілы прэзідэнтаў Рады БНР Пётры Крачэўскага і Васіля Захаркі, а таксама спевака Міхася Забэйды-Суміцкага на Альшанскіх могілках у Празе ўзятыя пад апеку суполкі "Скарына".

У Празе на Альшанскіх могілках пахаваныя прэзідэнты Рады БНР Пётра Крачэўскі (1879-1928) і Васіль Захарка (1877-1943), а таксама выбітны спявак Міхась Забэйда-Суміцкі (1900-1982). У апошнія гады з пэўных прычынаў вакол пахаванняў склалася няпростая юрыдычная сітуацыя.

Паводле чэшскага заканадаўства, магіла захоўваецца на працягу аплачанага тэрміну, пасля чаго арэнду можна працягнуць яшчэ на дзесяць гадоў. Калі ж гэтага не здараецца цягам года, уладальнікам пахавання робіцца адміністрацыя могілак. Далей магчымыя два варыянты: магіла можа быць прададзеная, і новы ўладальнік можа знесці помнік і зрабіць новае пахаванне, альбо — можа быць узятая пад апеку нейкай асобай ці арганізацыяй, якая бярэ на сябе абавязкі ў справе яе догляду. У апошнім выпадку магіла не можа быць прададзеная, новае пахаванне таксама немагчымае.

У справе з беларускімі пахаваннямі іх уладальнікам стала адміністрацыя могілак, бо асобы, якія былі ўпаўнаважаныя даглядаць за магіламі, з'ехалі з Чэхіі, не паведамiўшы свой новы адрас адміністрацыі могілак, не праінфармаваўшы Раду БНР і не перадаўшы нікому справы.

Паводле чэшскага заканадаўства, імёны ўладальнікаў магілаў захоўваюцца ў сакрэце, і доўгі час немагчыма было высветліць іх статус. Аплата перастала паступаць, і летась магілы перайшлі ў чэшскую ўласнасць.

Далей сітуацыя магла разгортвацца не самым спрыяльным чынам. Магілы трэба было выкупляць паводле экспертнай ацэнкі іх кошту, які мог дасягаць пяцізначнай лічбы ў далярах. Яшчэ горш, што магілы маглі набыць людзі (ці арганізацыі), для якіх імёны выбітных беларусаў нічога не гавораць — альбо, наадварот, гавораць вельмі шмат — г.зн. дастаткова, каб наўмысна гэтыя магілы знесці.

Адміністрацыя Альшанскіх могілак з разуменнем паставілася да звароту актывістаў суполкі "Скарына" і прапанавала варыянт апекі, пры якім трэба ўнесці меншую плату, чым пры набыцці ва ўласнасць. У снежні 2013 года былі падпісаныя дамовы адносна магілаў Пётры Крачэўскага і Міхася Забэйды-Суміцкага, а 10 верасня 2014 года — Васіля Захаркі (пахаваны разам з жонкай). Тэрмін апекі — 10 гадоў, ён можа быць працягнуты. Цягам гэтага часу магілы не могуць быць прададзеныя, зруйнаваныя, у іх не могуць быць пахаваныя іншыя асобы. Тэрмін апекі аплачаны Радай БНР і ахвяраваннямі на "Дар Сакавіка" супрацоўнікаў беларускай рэдакцыі "Радыё Свабода".

Магілы выбітных беларусаў у Празе штогод на Дзень Волі 25 Сакавіка і на Дзяды ўшаноўваюцца мясцовымі беларусамі, чэшскімі прыяцелямі і гасцямі з Беларусі.

*Паводле "Радыё Свабода"*

## У ІРКУЦКАЙ ВОБЛАСЦІ ПРАВЯЛІ БЕЛАРУСКАЕ СВЯТА БАГАЧ

Актывісты Іркуцкага моладзевага клуба “Крывічы” 5 кастрычніка правялі абрадавае свята Багач у вёсцы Тарнопаль, што за 350 км ад Іркуцка.

Пачаўся абрад з таго, што “Крывічы” ў нацыянальных беларускіх строях з сапраўдным старадаўнім лубком (глыбокая драўляная чаша) абыходзілі вясковыя хаты, спяваючы абрадавыя песні. У кожнай хаце гаспадыня сыпала некалькі жменяў збожжа ў лубок. Абышоўшы з добры дзясятак хат, з поўным лубком дружная каманда рушыла ў мясцовы клуб. Там ужо сабралася поўная зала людзей.

Прамовіўшы патрэбныя абрадавыя словы, у цэнтры лубка запалілі свечку і паставілі той на стол пасярод сцэны. Потым Алег Рудакоў распавёў прысутным пра свята “Багач”.

Пасля гэтага “гаспадыня” вёскі Тацццяна Дарчы, якая ўзначальвае мясцовую беларускую суполку, вынесла каравай і мёд. Кавалачак караваю адламалі і расцерушылі для “птушак”, каб яны аднеслі гэты дар у вырай багам і продкам. А з астатняй часткай караваю і мёдам Алег Рудакоў абышоў усю залу, пачаставаўшы кожнага з прысутных.

На гэтым абрадавая частка свята скончылася, і пачаліся танцы. Тут асабліва парадавалі дзеці і... бабулі, якія не прапускалі ніводнага танцу.

У канцы свята Алег Рудакоў падарыў Тацццяне Дарчы кнігі і дыскі з метадычнымі матэрыяламі для далейшай працы па адраджэнні беларускай культуры.

*Паводле Алега Рудакова*

## АГУЛЬНЫЯ КАРАНІ ЗБЛІЖАЮЦЬ

Грамадская арганізацыя беларусаў Курганскай вобласці “Бацькаўшчына” ўжо даўно наладзіла дзелавыя і сяброўскія сувязі з жыхарамі вёскі Новае Іллінскае Петухоўскага раёна, заснаванай выхадцамі з Беларусі. Чарговы раз курганскія беларусы прыехалі сюды 29 жніўня. Кіраўнік арганізацыі Людміла Урванцава ў мясцовым клубе ўручыла Падзячныя лісты губернатара Курганскай вобласці бібліятэкару Надзеі Фёдараўне Лапухінай, якая займаецца краязнаўчай дзейнасцю, і загадчыцы клуба Любові Пятроўне Фраловай – за актыўны ўдзел у адраджэнні народнай культуры. Затым адбыўся канцэрт фальклорнага калектыву “Журавачка”. Для мясцовых дзетак зладзілі віктарыну на веды пра Беларусь. Пасля канцэрта курганскія госці наведалі дамы двух найстарэйшых сельскіх родаў, чые карані непасрэдна сыходзяць да беларускіх продкаў.

Як прыгадвае Людміла Урванцава, сустрэчы прайшлі вельмі цёпла, гаспадары і госці хутка знайшлі агульныя ўспаміны, хаця людзі з розных месцаў, рознага ўзросту.

Кіраўнік Новаіллінскай адміністрацыі Алена Акімава прызналася, што падчас сустрэч нават яны, мясцовыя жыхары, даведаліся нямала новага аб мінулым краю і сваіх землякоў.

*Паводле Курганскай абласной газеты “Новы свет”*

## У ЕКАЦЕРЫНБУРГУ АДКРЫЛІ ПОМНІК МУЛЯВІНУ



Адкрывалі помнік міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў, губернатар Свярдлоўскай вобласці і артысты ансамбля “Песняры”.

Помнік стварыў калектыў пад кіраўніцтвам скульптара Сяргея Логвіна. Скульптура вышынёй 3,5 метра адлюстроўвае Уладзіміра Мулявіна ў канцэртным гарнітуры і з электрагітарай у руках.

Устаноўка помніка на радзіме Уладзіміра Мулявіна была ініцыяваная Міністэрствам культуры Беларусі сумесна з урадам Свярдлоўскай вобласці і адміністрацыяй горада Екацерынбурга. Таксама некаторы час таму ў Мінску бульвар Луначарскага быў перайменаваны ў бульвар Мулявіна. А ў Екацерынбургу на доме, у якім прайшло дзяцінства музыканта, усталявалі мемарыяльную дошку.

*Паводле “Еўрарадыё”*

## ТРЫ СЛОВЫ ПРА ДАЖЫНКІ Ў СІБІРЫ



27 верасня абрад сканчэння жніва – Дажынкі – актыў Іркуцкага таварыства беларускай культуры (ІТБК) зладзіў у беларускай вёсцы Марынінск. Нягледзячы на тое, што напярэдадні ішоў першы снег, падчас выканання абраду свяціла сонейка. Прысутнічала багата народу – прыехалі актывісты не толькі з Іркуцку, але і з аддзяленняў ІТБК у вёсках. Пасля абраду ў клубе адбыўся вялікі канцэрт, а скончылася святкаванне такім застоллем, якога ніколі яшчэ не бачылі Беларусы Прыбайкалля – на сталах, падрыхтаваных жыхарамі Марынінску, гасцей чакала больш за дзясятак страваў традыцыйнай беларускай кухні – дранікі, бабка, галкі, калдуны, камы, боршч, цыбрыкі – і шмат чаго яшчэ! Дзякуй, было вельмі смачна!

*Паводле Аляксея Кухты*

## “МОВА ЦІ КАВА” – ЦЯПЕР І ВАРШАВА!

Нашумелыя курсы беларускай мовы цяпер можна будзе наведваць і ў польскай сталіцы. Першая сустрэча ўжо сабрала болей за 50 чалавек, сярод якіх былі не толькі беларусы, але і палякі, і ўкраінцы, якія таксама жадаюць вывучаць беларускую мову. У цёплай і сяброўскай атмасферы ўдзельнікі мерапрыемства знаёміліся, дыскутавалі і дзяліліся сваімі гісторыямі пра беларускую мову, яе значэнне і будучыню.

Бясплатныя лекцыі беларускай мовы былі запачаткаваныя ў студзені 2013 года ў Маскве журналісткай Кацярынай Кібальчыч.

*Паводле Касі Бергель, “Беларускае Радыё Рацыя”*

## АБВЕСТКА

У бюлетэні “Беларусы ў свеце” №148 была дапушчаная недакладнасць у нататцы аб пахаванні Юркі Станкевіча (старонка 7). Нарадзіўся ён не ў Празе, а ў Вільні, 18 сакавіка 1928 года. Прыносім чытачам выбачэнні.

*Рэдакцыя*

## БЕЛАРУСЫ З МЕЛЬБУРНА САЛІДАРЫЗУЮЦЦА З УКРАІНСКІМ НАРОДАМ

Пра гэта паведаміў старшыня Беларускага цэнтральнага камітэта ў Мельбурне (Аўстралія) Янка Барысевіч. У лісце, дасланым у "Бацькаўшчыну", ён ад імя беларусаў Мельбурна выказвае занепакоенасць сітуацыяй ва Украіне. Адзначае, што стойкасць украінцаў у абароне сваёй радзімы дае беларусам добрае натхненне. І таму, як паведамляе Янка Барысевіч, беларусы з Мельбурна салідарызуюцца з украінскім народам у іх змаганні за незалежнасць і суверэннасць свайго краю.

"Мы з вамі! – піша спадар Янка ў лісце. – Без вольнай Украіны не будзе вольнай Беларусі. Вольная Украіна дае нам натхненне і надзею на лепшую будучыню нашых народаў".

Таксама Янка Барысевіч уздымае іншае пытанне: "Беларусь жыве, – піша ён, – хоць і паабрываная па кавалку. Хоць мы не ў стане прылучыць назад адарваныя кавалкі нашай тэрыторыі, але маем права змагацца на міжнароднай арэне, каб гэтыя адарваныя ад нашай тэрыторыі часткі мелі права на ўласную аўтаномію. Аўтаномія дае права выкладаць сваю беларускую мову ў школах, абараняць нацыянальныя правы. Акрамя таго, у парламенце адпаведнага краю мусяць быць выбраныя прадстаўнікі ад гэтых аўтаномій. Гэтае міжнароднае права прызнанае найвышэйшымі органамі ААН".

Спадар Барысевіч адзначае, што да адарваных ад Беларусі тэрыторый беларусы з Мельбурна залічваюць Смаленскую і Бранскую вобласці.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

НАВІНЫ "БУДЗЬМА!"

## У МАЛАДЗЕЧНА ПРАЙШЛА ТВОРЧАЯ СУСТРЭЧА З РАДЗІМАМ ГАРЭЦКІМ

23 кастрычніка ў Маладзечна ў бібліятэцы "Верасок" адбылася творчая сустрэча з акадэмікам, пісьменнікам, публіцыстам Радзімам Гаўрылавічам Гарэцкім. Яна прайшла ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" На сустрэчу завітала каля 50 чалавек, у тым ліку студэнты політэхнічнага каледжа. З прывітальным словам ад бібліятэкі выступіў маладзечанскі краязнавец Міхась Казлоўскі.

Прэс-сакратар МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алеся Башарымава прадставіла госця, які быў прэзідэнтам Згуртавання ў 1993-2001 гадах і заўсёды ўваходзіў у Вялікую і Малую Рады арганізацыі. Акрамя таго, спадар Радзім – прадаўжальнік беларускай дынастыі Гарэцкіх: сын выдатнага навукоўца Гаўрылы Гарэцкага і пляменнік слыннага пісьменніка Максіма Гарэцкага. Алеся правяла невялікую віктарыну, прысвечаную жыццю і творчасці апошняга, а за правільныя адказы ўдзельнікі атрымлівалі ў падарунак ад кампаніі "Будзьма беларусамі!" адмысловыя паштоўкі і закладкі. Пасля слова перайшло да Радзіма Гаўрылавіча, які распавёў пра нялёгкі лёс сваіх бацькі і дзядзькі і пра тое, як яго бацька і сам ён вярнуліся на Радзіму.

Падчас аповеду ён звяртаўся да розных кніг, прысвечаных Максіму і Гаўрылу Гарэцкім. Гэтыя кнігі спадар Радзім прывёз у падарунак бібліятэцы.

Асобна Радзім Гаўрылавіч расказаў пра апошнія свае кнігі. "Лісты жыцця кахання", якая выйшла летась у выдавецтве "Тэхналогія" – гэта гісторыя кахання Гаўрылы і Ларысы Гарэцкіх, якая ўключае вялікую частку іх ліставання. А кніга "Жыццёвы меланж", якая выйшла летась у выдавецтве "Кнігазбор" на замову МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", стала плёнам 20-гадовай публіцыстычнай працы спадара Радзіма і ўяўляе сабой своеасаблівы стракаты вобраз тых падзеяў, якія перажываў аўтар, і тых людзей, якім ён прысвячаў артыкулы і нататкі.

Напрыканцы імпрэзы ахвочыя маглі задаць Радзіму Гаўрылавічу пытанні. Хтосьці цікавіўся перспектыўнымі выкапнямі ў Беларусі, а хтосьці – шляхам акадэміка да беларускай мовы. Актыўныя ўдзельнікі таксама атрымалі падарункі ад кампаніі "Будзьма беларусамі!"

Завяршылася мерапрыемства аўтограф-сесіяй пісьменніка.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛІСТАПАД 2014 ГОДА

1 лістапада – 105 гадоў таму ў в. Горы (цяпер Вілейскі р-н) нарадзіўся Іван Касяк (1909-1989), грамадскі дзеяч, публіцыст, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

2 лістапада – Дзяды, дзень памінання памерлых.

2 лістапада – 55 гадоў таму памёр Аляксандр Орса (1896-1959), педагог, доктар прыродазнаўства, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

4 лістапада – 85 гадоў таму ў в. Таргуны (цяпер Докшыцкі р-н) нарадзіўся Сяргей Карніловіч (1929-1993), грамадскі і рэлігійны дзеяч эміграцыі ў ЗША.

9 лістапада – 20 гадоў таму, у 1994-м, у Вільні ўстаноўлена памятная дошка Браніславу Тарашкевічу.

12 лістапада – Дзень памяці св. мучаніка Язафата Кунцэвіча. Нарадзіўся ў Уладзіміра-Валынскім (Украіна) у 1580 г., забіты ў Віцебску 12 лістапада 1623 г.

14 лістапада – 75 гадоў таму, у 1939-м, Заходняя Беларусь афіцыйна ўключана ў склад БССР.

16 лістапада – Дзень Маці Божай Вострабрамскай — апякункі Беларусі.

16 лістапада – 100 гадоў таму ў в. Пятровічы (цяпер Смалявіцкі р-н) нарадзіўся Язэп Семяжон (Семяжонаў; 1914-1990), перакладчык, літаратар.

19 лістапада – 10 гадоў таму памерла Юзэфа Найдзюк (дзяв. Брэчка; 1927-2004), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Пахавана ў Пасадэне (Каліфорнія, ЗША).

22 лістапада – 70 гадоў таму памёр Кузьма Чорны (сапр. Рамаңоўскі Мікалай; 1900-1944), пісьменнік, класік беларускай літаратуры, публіцыст, вязень савецкіх турмаў. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску.

26 лістапада – 105 гадоў таму ў Менску нарадзілася Яніна Каханоўская (1909-2005), дзеяч эміграцыі ў ЗША.

29 лістапада (ці 4 снежня) – 65 гадоў таму ў савецкім канцлагеры пад Тайшэтам (Іркуцкая вобл., Расія) забіты Адам Станкевіч (1892-1949), рымска-каталіцкі святар, грамадска-культурны дзеяч, асветнік, культуролаг, выдавец, публіцыст. Пахаваны на могілках Азёрлага каля в. Шаўчэнкі Іркуцкай вобл., Расія.

30 лістапада – 115 гадоў таму ў в. Зазыбы (цяпер Лёзненскі р-н) нарадзіўся Міхась Лынькоў (1899-1975), дзіцячы пісьменнік, літаратуразнавец.

**Беларусы ў свеце**
№10(150), кастрычнік 2014

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27